# ЧЫРВОНАЯ БЕЛАРУСЬ

1931

ЖНІВЕНЬ

№ 15



ПІОНЭР-УДЗЕЛЬНІК ЗЬЕЗДУ

# ЗЬМЕСТ:

ПРОЛЕТАРЫ ЎСІХ КРАІН, ЗЛУЧАЙЦЕСЯ!

ЖНІВЕНЬ 1931

# ЧЫРВОНАЯ БЕЛАРУСЬ



АДРАС РЭДАКЦЫІ, САВЕЦКАЯ, 59
Тэл. № 11—09.

№ 15

БАЯВЫМІ КАЛЁНАМІ НА ШТУРМ ДРУГОГА БАЛЬШАВІЦКАГА УРАДЖАЮ





Фото Ляндзберга.

# скарабея

Урывак з аповесьці Міколы Нікановіча.

*Малюнкі ДАВІДОВІЧА.*



... Каханьне—тая-ж сьляпая і незгасальная вера. Людзі кахаюць таму, што кахаюць і ніякія доводы рассудка ім дзеля гэтага непатрэбны.

**Ромэн Роллан.**

У тугім пагушкваньні вагону мэлёдычна і мякка пагрымліваюць тахты, і Андрэй ужо з нейкай абыякасьцю пазіраў цераз адчыненае вакно па аднастайную роўнядзь мора. Мутным срэбрам бліщчыць яно недзе пад гулкімі коламі, маўчыць і жывым волавам пераліваецца пад роўнай паласою электрычнага сьвятла з вокнаў экспрэсу.

А ў вакно шырока дыхае мора густым і сыраватым ветрам. Далей-жа мора губляецца ў цёмных і цяжкіх даляглядах і зусім зьліваецца з небам.

З вакна не разьбярэш—ці то цягнік ляціць, ці то каля цягніка плаўна адлятаюць назад абрывістыя берагі, глыбокія затокі, срэбныя ад сьвятла кусты і падсьлепаватыя ды мізэрныя станцыённыя будынкі.

Часамі дзе ў цёмнай затоцы задрыжыць нясьмелая зорка, пацягнецца некуды ад сябе палахлівым залатым касьнікам і згубіцца ў зыбкіх туманох.

Гэта рыбацкі човен ціха блудзіць і рассыпае цераз рыбацкія сеткі за сабою залаты дождж.

Вясеньняя ноч душная і да густаты цёмная. Пахне сьвежаю зямлёю, морам і перапаленым коксам. У Андрэя думкі завязваюцца тугой дзявочаю касою, потым распутваюцца, кудзеляцца і зноў вяжуцца ў нястройныя і беспарадку наматаныя клубкі, блытаюцца і зацягваюцца ў пялёнку цягучай і надакучлівай дрэмы.

Цяжка ад беспарадачных думак, як цяжка і ад жыцьця, што аніяк ня ладзіцца, ня хоча пайсьці па надзейных і пэўных рэйках чалавечага і грамадзкага дабрабыту і сямейнага шчасьця... Блытаецца жыцьцёвы цягнік. У мутных, як позьні восенскі вечар, далях.

Цяжка на Андрэевай душы. І пад тугі і плаўны гушкат пераносіцца ён у ня так даўно мінулае...

... Тады была вось такая-ж самая ноч. Ноч поўная цемнаты і засеяных зрэдку зор. Была дзівосная беларуская ноч. Таксама ўліваліся ў вакно пахі, але толькі родныя і мілыя сэрцу. У бязьмежных палёх заплывалі ў вагон віхрастыя бярозы, а ў барох-пушчах—засмоленае і густое паветра.

Ехалі яны ўдвох. Ехалі моўчкі, не сказаўшы адзін аднаму ніводнага ні добрага, ні дрэннага слова. То былі чужыя, па разладзьдзю душы, людзі і між-тым такія блізкія, родныя, крэўныя. Такімі могуць быць толькі муж і жонка.

Андрэю хацелася тады то злавацца, зрабіцца лютым зьверам і рваць яе на кавалкі, так як гэта робіць галодная тыгра са сваёй здабычаю... ці не, ня так!.. Хацелася вось так памаленьку, павольна мучыць яе, каб растала, згасла ў жорсткай і жудаснай сьмерці і толькі за тое, што вось ні сёньня так заўтра яна будзе ў абнімках другога, будзе цалаваць яго, аддасьць усе пяшчоты свае... Той будзе ўвесь шчасьлівы, самазадаволены і таму грубы ад свайго шчасьця, захоча ўзяць, захоча паказаць сваё пяршынство і перад ёй (няшчаснаю!) і перад ім Андрэем.

А то раптам, як вокам змаргнуць, узьнікла ў Андрэя пастанова: вось зараз-жа, тут, у гэтым цесным і мо' такім да шчасьця і замілаваньня прытульным купэ — кінуцца перад ёй на калені і цалаваць яе твар, рукі, ногі, цалаваць гэтую дарагую для яго вопратку і ўжо з памутнелаю сьвядомасьцю прасіць... не,—маліць яе, маліць—калі так можна сказаць,—каб яна даравала яму ўсё, усё... І адначасна адчуваў ён, што на гэта ў яго ня хопіць адвагі, сьмеласьці. Ведаў, што калі так зробіць:—будуць сьлёзы, бурныя сьлёзы і таму баяўся іх хужэй ад усяго.

Яна сядзела тады за столікам у чорным шаўковым плацьці, нямая і бледная, што папера, як казачная прынцэса, памёршая ў крышталёвых палацах на дне залаціста-блакітнага возера. Здаецца чакае толькі прыходу каханага свайго з разрыў-травою ды з гаючаю і жывучаю вадою.

Так у казцы, а ў сапраўднасьці Андрэю здавалася, што яна за час гэтай катастрофы значна пахудзела і ўсё-ж-ткі зрабілася больш прыгожаю, больш мужнаю і сільнаю. Увесь час у сваіх руках нэрвова круціла бэзавую завяўшую галінку і, у глыбокай задумнасьці (як-бы здавалася), пільна глядзела на Андрэя.

Маўчаў Андрэй і глядзеў у аксаміт ночы, а пяражываньні ў іх былі, амаль, роўныя... Кожны з іх лічыў сябе цалкам ва ўсім вінаватым і адначасова апраўдваў сябе.

Заставалася праехаць ім адзін толькі пралёт. Тады-ж Андрэй вышаў з купэ ў калідор. З шумам адчыніў ён вакно і ўсьпёрся на раму. Ня было тады ветру зусім, толькі сярод няроўна абарваных оранжава-блакітных воблакаў уцякаў ад зорак на злом галавы жоўты ўшчэрблены месяц.

Вось ужо хутка і астаноўка. Тут трэба будзе зьлезьці, тут вырашыцца лёс двох людзей. Цяпер ужо ў Андрэя было зусім пуста на душы, проста нічога ня думалася і не жадалася. Была нейкая абыякасьць да ўсяго. Вось-жа ў гэты час нехта павольна няпэўнаю ступою падышоў да яго ззаду і спыніўся. Андрэй падсьвядома адчуў, што гэта была яна. Так толькі адчувае закаханы ў сваю любімую, так адчуваюць людзі блізкасьць і здань сьмерці ці няшчасьця.

Андрэй не абярнуўся. У Андрэя на адзін няясна вызначаны момант зьявілася ў душы буйная і глыбокая і таму балючая радасьць пераможцы. Значыць ня ён, а яна... яна першая падыйшла...

Вось так як і сёньня мякка гушкаў цягнік. Ня было толькі тых зор, ні месяца, што бачылі ўсё і не далі-б зманіць. Там плакалі тады над дарогаю старыя кацярынінскія бярозы, а тут...

Але яна пастаяла яшчэ трохі, нібы нешта вырашаючы і... ах-як прыемна яе мяккая рука, што так пяшчотна лягла на ягоным плечы. Андрэй убачыў яе скамянелы, худы і белы, што крэйда, твар і шырокія ды ў ліхаманкавым агні вочы. Хацеў нешта сказаць, ды яна папярэдзіла яго:

— ... Заграй мне! — а вусны былі чорныя і неяк дзіўна трымцелі.

— Калі?.. Чаму?!.—не прадумаўшы кінуў Андрэй, абы што сказаць. У ягоным сэрцы ўжо загарэлася няясная надзея... Памятае ён, што калаціліся ў яго ня толькі рукі, калаціліся і вусны і сэрца і сам увесь...

— ... зайграй мне тую-ж самую рэч, якую я так люблю.. якую так любіла... (папраўіла яна). — Вось калі я пакахала цябе—у той вечар ты іграў... Ты добра яе памятаеш... Як мы разыйшліся, і тады...—ды ўжо ня было больш у яе слоў. Яна праглынула іх і, удавілася.



Андрэй ведае бяз слоў. Чаму яе рука такая халодная?!. Ну, дармо, нічога! Можа абдумалася яна, можа зноў як і раней жыцьцё пойдзе... няхай ужо сабе і не па рэйках...

— Тут, у вагоне?.. Ды гэта-ж немагчыма!..

Яна пастаяла перад ім, усё падкрэсьленае хараство і шчасьце, потым бяз слоў павярнулася ў купэ і вышла з капялюхом у руках. Навошта ёй быў ён? Без патрэбы пакруціла ў руках і...

— Ну, Андрушка—даруй за ўсё... — яна здаецца гэтага і не сказала, але толькі пачуў Андрэй.

Потым крутка павярнулася ад яго і пашла з вагону.

Чаму тады не затрымаў яе Андрэй, чаму было ня выканаць тэй цудоўнай і настолькі-ж дзіўнай ды віхрыста-страснай рэчы? Ну, так вось сталася! Хто-ж гэта дазнаецца ці каму гэта вядома заўтрашняе ў сваім жыцьці?!.

Андрэй толькі ў няяснай трывозе і прыбітасьці зноў перагнуўся цераз вакно і пачаў інстынктыўна сачыць за выхаднымі дзьвярыма. Цераз хвіліну чорная фігура вышла на падножку і Андрэй адразу-ж спазнаў яе. Потым убачыў таксама зусім выразна, як гэта чорная фігура сарвалася з падножкі і матнулася вялізарнай чорнай птушкаю некуды ў прадоньне, у невядомае і жудаснае...

І здаецца яшчэ пачулася Андрэю, што нібы хруснула пад вагонам і вагон згубіў роўнамерны і пастаянны тахт. А вось крык жудасьці і нямой нечалавечай сьмерці, гэты крык ён чуў зусім добра. Такі крык можа пачуў ня толькі ён адзін, але нават увесь цягнік.

Гэта не забудзе ніколі Андрэй!

Тады-ж у бяспамяцтве Андрэй з усёй сілы рвануў за ручку падважніка. Затармазіла. І яшчэ на хаду Андрэй саскочыў з вагону.

Цягнік спыніўся. Людзі спалі. За вокнамі падалі некалькі ў пераборку галасоў. І ніхто ня ведае і ведаць ня будзе, што адбылося ў тую ноч на рэйках.

Гэта было так нядаўна і так, здаецца, даўно, што ў Андрэевай памяці толькі прамільгне на нейкі момант яе апошні выраз твару, момант, калі яна папала пад калёсы. Не, чаму?— Андрэй памятае і больш з іхнага сумеснага жыцьця, ды толькі падзеі асталіся ў памяці горкай крушынавай ягадзінаю... Мо таму так хутка і сьцерліся з ягонай памяці і сэрца выраз радасьці і глыбокай пяшчоты на яе твары.

Як-бы там ні было, але сёньня ўсё скончана і сёньня трэба пачынаць новае жыцьцё, зноў трэба будаваць клапатлівыя гранкі вашчыны адрэзаныя назаў ёды ад Андрэевага жыцьця няўмольным і выпадковым зямцом.

Новае жыцьцё... А для новага жыцьця трэба новыя сілы, сьвежыя, маладыя, загартаваныя барацьбою і нязломнаю сілай волі Іх ужо ў Андрэя бракавала. Вось і едзе ён сёньня на далёкае паўдня, вось чаму і навеяла гэта ноч столькі думак і перажываньняў, бо паміж сёнешнім і тым памятным назаўсёды вечарам была нейкая аналёгія, жудаснае падабенства.

І Андрэй наперакор усяму зайшоў у купэ і выняў з футарала скрыпку. З нейкім задушэўным замілаваньнем пакруціў у руках пафарбаваны пад арэх інструмант, старанна зьдзьмухнуў ад каніфоні з-пад струн пыл, задумаўся, потым разы два тромкнуў і прыслухаўся да цудоўна-малінавых званочкаў у крышталёвых далях. Калі-ж гэтыя мінорныя гукі недзе далёка-далёка расталі, Андрэя нешта ўшчыпнула за сэрца і ён паклаў скрыпку на сваё месца.

Упрашалі хлопцы, але ня было ў яго настрою.

Экспрэс, як люты зьвер лящеў наперад і закалыхваў.



# Паплылі плыты

## Верш Якуба Ярмаловіча

1

скрыўся зорнасьцю агнёў
Прастор, марозамі спавіты,
І блудны месяц чырванеў
На паўшляху сваёй орбіты.

Мінала ноч
І ўскрыльваў дзень,
Каб зноўку сонцам разгарацца,
Каб зноўку ўліць у кроў людзей
Задор бадзёрасьці і працы.

Тады туды, дзе даўні лес
Шумеў таемнасьцю адвеку,
Без надламанасьці калень
Ішлі брыгады лесасекаў...

Абшар у песьнях патанаў,
Глыталі пілы дравясіну...
... І ўпала першая сасна
Ў сьнягоў пуховую пярыну.

А ўдзень, пад скрыпы палазоў
І скрозь марозную імглівасьць,
Шнуры бясконцыя вазоў
Ішлі абозамі на прыстань.

Падыходзіў воз, за ім—другі
І румаўнічыя з натхненьнем
На гладкім беразе рак -
Складалі стромкае бярвеньне.

2

Яшчэ прадранішняй парой
Над лугам песьні праплывалі...,
Маўчалі вольхі над ракой,
Адбіўшы постаці у хвалях.

І нібы дзед, стагодні дуб
Ківаў размашыстай каронай,
Як па палену на ваду
Спускалі рупна плытагоны.

А потым пільна, як і скрозь,
Бярвеньне віткамі скруцілі,
Каб хвалі ўзьюшаных вятроў
Над чалавекам не пакпілі.

... І загарэліся сьцяжкі
На хатках гожых і раптоўных,
Запелі песьню плытнікі
І—паплылі плыты на поўдзень.



ФОТО ШКЭЛЬ — "ДАЕШ 100 ПРОЦАНТАЎ ПАЗЫКІ",

# ЗЬЕЗД УДАРНІКАЎ— ТРЭЦЯГА РАШАЮЧАГА

НАРЫС Л. ЧАРНЯКОВА

Фабрыкі, заводы, саўгасы, колгасы, МТС вайсковыя часьці ахоплены вялізарнай творчай работай. Пад лёзунгам новых перамог рыхтаваліся яны да Ўсебеларускага зьезду рабселькораў. Нарастаючым тэмпам наплывалі гарачыя дні напружанай перадзьездаўскай работы. Кожны сёнешні дзень браў на буксір учарашні. Істужкі тэлеграфу, рэзкія званкі тэлефону, лісты брыгад друку і рабселькораў паведамлялі ў рэдакцыю аб усё новых перамогах—новых дзесятках цэхавых і колгасных газэтах, новых брыгадах друку, выкананьні (і часта датэрмінова) плянаў сяўбы, падрыхтоўкі да ўборкі, росьце новых колгасаў.

Дзелавіта і ўрачыста рыхтуецца Менск. Рабкоры друкарні імя Сталіна па сваёй ініцыятыве распрацавалі проект тэзісаў аб задачах рабкораў паліграфпрамысловасьці і падносяць іх зьезду; варашылаўцы — звыштэрміновай работай рабкораў-ударнікаў выпусьцілі звыш пляну ў падарунак зьезу 3 сьвідравальныя варштаты, якія сабралі з бракаваных дэталяй, адпаведна падагнаўшы (падтачыўшы і падсьвідраваўшы) іх. Дружна рыхтуюцца на прадпрыемствах да дэманстрацыі ў гонар зьезду

З шумам адчыняюцца дзьверы рэдакцыі—„Рабселькор" сустракае першых дэлегатаў. Невялічкая гутарка, экскурсія ў друкарню, некалькі таварыскіх запытаньняў, адказаў згуртоўваюць, знаёмяць цаміж сабою дэлегатаў, рыхтуюць іх да супольнай творчай работы на зьезьдзе.

Па-новаму будзе гэты зьезд праходзіць, па-новаму да яго рыхтуюцца. Кіпіць работа па рэдколегіях і комсамольскіх колектывах Менску. Сёньня—апошні дзень, а ўвечары дэманстрацыя сустрэчы зьезду.

50 фотокораў, аб'яднаўшыся ў брыгады, рыхтуюцца бесьперапынна абслугоўваць зьезд.

10 ліпеня. Выдатная гістарычная дата—адчыняецца Другі Ўсебеларускі зьезд рабселькораў. Ужо з раніцы адзін за адным і групамі наведваюць „Рабселькор" прыехаўшыя дэлегаты. Сустрэча, таварыскія гурткі—кароткі абмен вопытам.

Організаваліся ў колёны. Ідзем сустракаць аб'яднаную гомельска-бабруйскую дэлегацыю. Іх прывязе паравоз, які адрамантавалі звыштэрмінова ў падарунак зьезду рабкоры-ўдарнікі гомельскага дэпо.

На ўсіх парах, роўна адбіваючы калёсамі такт, падлятае да пэрону чысты да блеску, увесь у лёзунгах-прывітаньнях паравоз С-176—ударнік імя 2-га Ўсебеларускага зьезду рабселькораў.

Каля паравозу кароткі мітынг. Рабкор-ударнік Шчарбакоў ад імя рабселькораў дэпо і ўсёй Гомельшчыны вітае тых, якія сустракалі дэлегатаў. Дэлегаты Украіны і Смаленску, якія прыбылі на зьезд, напамінаюць: за вашым зьездам, за вопытам вашай работы сочаць рабселькоры і друк усяго Савецкага Саюзу. На вашым вопыце мы будзем усе вучыцца. Чакаем такой-жа, як і падрыхтоўка, добрай і плённай работы на самым зьезьдзе.

Фабрычныя гудкі-сыгналы да сканчэньня работы першай зьмены—сыгналы збору на дэмонстрацыю менскіх пролетараў у гонар зьезду. Да дому комасьветы сьцякаюцца колёны. Варашылаўцы, комунараўцы, абутнікі, студэнты, піонэры—усе прышлі вітаць зьезд рабселькораў.

Залатымі іскрынкамі пераліваюцца прамяньні сонца на масянжовым целе прыгожай доўгай істужкі—колёны фізкультурнікаў. А сама колёна—парад усіх газэт БССР, на чале з ЦО КП(б)Б „Зьвяздой" і газэтай „Рабселькор".

Адказны радактар „Зьвязды"—т. Будзінскі кароткай і моцнай прамовай ад імя Культпропу ЦК КП(б)Б і рэдакцыі „Зьвязда" адчыняе зьезд.

Заля перапоўнена. На вуліцы каля дому комасьветы „барыкадныя баі" за права ўваходу. Толькі некаторыя „аўладалі тэхнікай" і пад носам контролю прабіраюцца ў залю.

Без параднасьці. проста і дзелавіта пачынае сваю работу зьезд. Слова даецца сакратару Цэнтральнага Комітэту комуністычнай партыі (бальшавікоў) Беларусі тав. Гею. Громам працяжных воплескаў сустракаюць рабселькоры тав. Гея.

Слова за словам, сказ за сказам—бальшавіцкія думкі і формулёўкі кідае дакладчык у гушчы дэлегатаў. Прамова яго—програма бальшавіцкіх дзеяньняў, плян вялікіх бліжэйшых баёў за далейшыя перамогі соцыялістычнага будаўніцтва.

Уборачная кампанія, далейшы ўздым колектывізацыі, збожжазагатоўкі і адначасовае разгортваньне сяўбы—ворыва пад зяб, поўнае выкананьне пляну прамысловасьці—ні аднаго прарыву, перабудова работы па-новаму, як паказаў правадыр партыі тав. Сталін—задачы, якія партыя ставіць перад рабселькорамі.

— Я думаю, таварышы, што другі Ўсебеларускі зьезд рабселькораў павінен пакласьці і пакладзе пачатак яшчэ больш шырокаму разгортвань ю рабселькораўскага руху ў Беларусі і гэты рух, пад кіраўніцтвам нашай партыі, будзе зьяўляцца моцнай зброяй у барацьбе за сапраўды бальшавіцкія тэмпы работы ўсёй КП(б)Б, у барацьбе за поўнае выкананьне і перавыкананьне ўсіх задач трэцяга, рашаючага году пяцігодкі, у барацьбе за выкананьне задач пабудовы соцыялізму ў нашай краіне,—заканчвае сваю прамову—бальшавіцкі загад тав. Гей.

Зьезд вітае прадстаўнік Чырвонай арміі тав. Самахвалаў. На зьезьдзе шмат ваенкораў. У адзнаку гэтага выносіцца пастанова: назваць зьезд—рабсельваенкораўск.м.

Лепшыя ўдарнікі фабрык і заводаў перадаюць рапарты перамог. І калі рапартуюць рабкоры друкарні імя Сталіна—гавораць аб перамогах, паказваюць свае дасягненьні, ускрываюць недахопы, паказваюць лепшыя і кепскія брыгады, лепшых ударнікаў і „лепшых" п'яніц і гультаёў. І калі прозьвішчы шкоднікаў соцыялістычнага будаўніцтва адно за адным па некалькі раз кідаюцца ў залю, здаецца, цьвікі заганяюцца ў гроб лжэўдарніцтва і рвацтва.

Даклады адказнага рэдактара ЦО КП(б)Б „Зьвязды" тав. Будзінскага і загадчыка сэктару друку ЦК КП(б)Б, рэдактара газэты „Рабселькор"—тав. Курціка аб задачах рабселькораўскага руху, парткіраўніцтва ім, і ўдарніцтва ў друку—аналіз пройдзенага, шлях далейшай барацьбы.

Перасыпаючы даклад жывымі фактамі, тав. Будзінскі даказвае клясавую сутнасьць буржуазнага і соцыял-фашыцкага друку. і ў параўнаньні з гэтым паказвае на тое, якую вялізарную творчую работу праводзіць наш комуністычны друк, які:

У буржуазных краінах цэмантуе і мобілізуе пролетарыят пад сьцягі комуністычных партый на „апошні рашучы бой",

у нас, у СССР, пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі мобілізуе вялізарную творчую ініцыятыву пролетарыяту і працоўных мас гораду і вёскі на будаўніцтва соцыялізму.

Наш рост у наступных лічбах:

рабселькораў зараз—40.000 (замест 2.000 у 1924 г.); 6.000 насьценгазэт; у 45 раёнах—раённыя друкаваныя газэты; на 30 прадпрыемствах друкаваныя шматтыражкі; сярэдні месячны тыраж газэт выявіўся з 66.000 у 1927 г. да 310.000 зараз,—толькі па адных цэнтральных газэтах. Яшчэ рыса: нам патрэбна 500 новых газэтных работнікаў—рабочых вылучэнцаў; ужо ў гэтым годзе газэтнае аддзяленьне комвузу пашыраецца да 175 чалавек—факты якія ў сваім дакладзе падае тав. Курцік.

Прыбыла „Правда". Дэлегаты проста такі глынаюць кожнае слова артыкулу—ацэнкі нашай падрыхтоўкі да зьезду.

„Рабселькор" організоўвае дзьве шырокія нарады: прамысловую—з удзелам усіх рэдактароў шматтыражак і дэлегатаў з прадпрыемстваў і сельскагаспадарчую—з удзелам рэдактараў раённых газэт і дэлегатаў з колгасаў, саўгасаў і г. д.

На нарадах госьці з украінскай дэлегацыі перадаюць вопыт першай у СССР цэхавай штодзенкі на заводзе „Серп і молат" (Харкаў) і штодзеннай палявой газэты (Нова-Украінскі раён). Дэлегаты выказваюць думку: „добра было-б мець макет штодзеннай палявой газэты". „Рабселькор" бярэ на сябе абавязак такія макеты даць. І праз дзень—дэлегаты атрымліваюць першыя тры тысячы (з ліку 12 тысяч заказаных) макетаў.

На трыбуне тав. Гусеў—загадчык сэктарам друку культпропу ЦК УсеКП(б).

Баявое прывітаньне „Правды"—кіраўніка рабселькораўскага руху—перадае тав. Ярмілаў.

Старшыня Саўнаркому тав. Галадзед перадае рабселькорам баявыя заданьні ўраду:

— Партыяй і рабочай клясай вы, таварышы рабселькоры, вылучаны і пастаўлены на перадавыя позыцыі разгорнутага соцыялістычнага наступленьня, на перадавыя позыцыі ў клясавай барацьбе. Не адступайце з гэтых позыцый, па-бальшавіцку змагайцеся за прасоўваньне наперад узмоцненымі тэмпамі, ідзеце наперад стройным пераможным маршам і мы канчаткова пераможам.

Пераходзім да сэкцыйнай работы—стрыжаню зьезду. Удумліва прапрацоўваюць дэлегаты проекты тэзісаў. Пункт за пунктам, дадатак за дадаткам дапаўняюць яны тэзісы—програмы сваёй барацьбы за новыя перамогі на фронце соцыялістычнага будаўніцтва, З поўнай нагрузкай працуюць сэкцыі. І гэта ня дзіва. Сэкцыі ўступілі ў соцыялістычнае спаборніцтва. Чыгуначная організавала рэйд, на якім практычна правярала пункт за пунктам жыцьцёвасьць тэзісаў. Яна выклікала на спаборніцтва ўсе іншыя сэкцыі, большасьць з якіх організавала такія-ж рэйды.

Дрэваапрацоўчая сэкцыя, абгаварыўшы выклік чыгуначнай, высунула сустрэчнае патрабаваньне аб перавозках лесу, аб сваячасовай падачы вагонаў на перагоны і г. д.

Сэкцыямі жывёлагададоўлі і тэхкультур праведзена сустрэча з прадстаўнікамі рэдакцыі газэт „Рабселькор" і Колгасьнік Беларусі" па радзе актуальных, практычных пытаньняў бягучай работы рабселькораў і друку, і асабліва перабудовы рабселькораўскага руху і задач правядзеньня ўборачнай кампаніі.

Аб'яднанае пасяджэньне зьезду сумесна з бюро ЦК комсамолу, прэзыдыумам Дзяржпляну, прэзыдыумам БАН, прэзыдыумам Бел. МБІТ і сэкцыі навуковых працаўнікоў „аб пэрспэктывах разьвіцьця народнай гаспадаркі БССР на базе генэральнага пляну электрыфікацыі і задачах рабкораў".

З захапленьнем слухаюць дэлегаты вобразны даклад старшыні Дзяржпляну тав. Гольдбэрга, выступленьні прэзыдэнта БАН тав. Горына, профэсара чырвонасьцяжніка тав. Вольфсона.

Мільгаюць агеньчыкі будучых магутных электрастанцый на вялізарнай мапе БССР. Мацнее, наліваецца электронамі волі кожная зьвіліна мазгоў кожнага дэлегата—электронамі парывістага напружанага імкненьня да барацьбы і перамог варштатаў у саюзе з навукай і тэхнікай.

Апошні дзень. Сэкцыі падводзяць вынікі сваёй работы, аформляюць матэрыялы-рэйдаў, канчаткова зацьвярджаюць тэзісы. Дрэваапрацоўчая сэкцыя апошняе пасяджэньне, дзе зацьвярджаліся тэзісы правяла на заводзе „Дрэваапрацоўшчык" сумесна з рабочымі вольнымі ў той час ад работы.

Напісаны „дагавор дружбы" заключылі фотокоры з рабселькорамі. Яны сваёй падрыхтоўкай да зьезду зрабілі пачатак глыбокай непарыўнай сувязі з рабселькораўскім рухам. Яны ў першы-ж вечар па-опэрацыйнаму здолелі выпусьціць два нумары фотогазэты—„Фотокор".

За ўвесь час выпушчана 7 зьездаўскіх і па адным сэкцыйным (у кожнай сэкцыі) нумары фотогазэты.

На чарговых бягучых задачах завастраюць увагу дэлегатаў старшыня ЦКК КП(б)Б тав. Калнін, сакратар ЦК КП(б)Б тав. Шаранговіч.

Коратка дакладваюць сэкцыі аб выніках сваёй работы. 503 выступаўшых у спрэчках з 610 дэлегатаў—яркая лічба актыўнасьці зьезду.

З вялізарным уздымам прымаецца адказнае прывітаньне баявому органу компартыі Нямеччыны—героічнай „Ротэ Фанэ" і яе рабселькорам. „Блізка-будучай савецкай Нямеччыне—Рот-Фронт, Рот-Фронт, Рот-Фронт"—падхапляе ўся заля апошнія словы прывітаньня.

А ўсьлед за гэтым бурная овацыя і стыхійна ахапіўшы ўсю залю „Інтэрнацыянал" сустракаюць прадстаўніка комуністычнай партыі Заходняй Беларусі.

У напружанай цішыні заслухоўваюцца кароткія, баявыя, поўныя рашучасьці і ўпэўненасьці ў перамозе словы прадстаўніка падпольнай комуністычнай партыі Заходняй Беларусі і яе падпольнага комуністычнага пролетарскага друку.

Зьезд прымае пастанову аб заключэньні соцыялістычнай умовы з УССР на хутчэйшую перабудову рабселькораўскага руху, лепшае правядзеньне ўборачнай кампаніі, мобілізацыю рабочых і працоўных мас на ажыцьцяўленьне асноўных гаспадарча-політычных задач партыі.

Тав. Будзінскі, зачыняючы зьезд, падагульвае яго работу:

— Зьезд—гэта ня самае цяжкае. Самае цяжкое ўперадзе. Яно—у найхутчэйшай перабудове рабселькораўскага руху, у ажыцьцяўленьні лёзунгу „кожны рабселькор—ударнік, кожны ударнік—рабселькор", у штодзенным сыстэматычным партыйным кіраўніцтве рабселькораўскім рухам і нізавым друкам.

Пад знакам барацьбы за самыя высокія колькасныя і якасныя паказальнікі выкананьня ўмоў спаборніцтва з Савецкай Украінай, пад знакам той вялікай грунтоўнай зарадкі, якую даў зьезд, з узмоцненай воляй і энэргіяй да новых рашучых перамог у баёх за генэральную лінію партыі.—зачыняецца другі Ўсебеларускі зьезд рабсельваенкораў—„командзіраў пролетарскай грамадзкай думкі", зьезд адданы змагаром за практычнае ажыцьцяўленьне генэральнай лініі партыі.

М. Г.



# ЗЬЛЁТ ТРЭЦЯЙ ЗЬМЕНЫ

Нарыс Г. Хомчанкі

За море синевольное,
За сто земель и вод
Разлейся, песня-молния
Про пионерский слёт.

**У. Маякоўскі.**

I

## ДЗЕСЯЦЬ ТЫСЯЧ ПРЫШЛО ВІТАЦЬ ПІОНЭРСКУЮ ЮНУЮ РАЦЬ.

На інакшаму гаманіў Менск 25-га ліпеня. Гаманіў плякатамі, оркестрамі рабочых дэмонстрацый, бадзёрымі сьпевамі дзяцей, гучнымі „ура".

Лічба 25 — выдатная ў слаўнай гісторыі піонэр-руху. Яна адчыніла другі Ўсебеларускі зьлёт трэцяй зьмены бальшавікоў. Яна прынесла ў пролетарскую чырвоную сталіцу 900 дэлегатаў двухсоттысячнай арміі ленінцаў. Таму ад раньня гаманілі вуліцы. Таму ўсюды зіхацелі прывітаньні. А пад вечар — ня лічыць, а кілёмэтрам мераць: без пачатку і канца, здаецца, цягнулся рады дэмонстрантаў. Бруку ня відаць Савецкай. Мора галоў, сьцягоў, лёзунгаў.

Глядзеце:

Рабочыя ў спэцвопратках—з заводу проста.
Дэлегаты чырвонагальштучнікі ў сініх блюзках.
Не адрозьніш:
Усе, як адзін—форма аднолькавая.
Стройныя рады школьнікаў і дзяцей Менску.

— Куды?
— На стадыён!..
— Чаго?
— На зьлёт!..

На зьлёт ішлі тысячы. Ішлі для плённай працы, каб абгаварыць і вызначыць далейшыя шляхі двухсоттысячнай.

Два гады прайшло, як зьбіраліся. Толькі не на стадыёне. Яго яшчэ тады ня было. А цяпер ён дзесяць тысяч людзей, што прышлі вітаць зьлёт, зьмясьціў на сваіх новых лаўках. Дзесяць тысяч!

Хвіліны бягуць шпарка. Асабліва на стадыёне. Неўзаметку — пачатак. Трыбуну занята прадстаўнікамі розных організацый. Савецкая грамадзкасьць праз сваіх прадстаўнікоў пільна сочыць за работай зьмены. Савецкая грамадзкасьць зьмену акружае бальшавіцкай увагай.

— Бо,—гаворыць тав. Рацэвіч,—піонэр - організацыя выхоўвае маладых бальшавікоў на конкрэтных героічных прыкладах барацьбы рабочае клясы, на конкрэтным удзеле ў соцыялістычным будаўніцтве.

Толькі тады, калі ў горадзе адстукала дзесяць, стадыён пачаў радзець. Зноў несьліся сьпевы, „ура". Трамваі лянівы перавозілі дэлегатаў у горад.

II

## З ФАБРЫК, ЗАВОДАЎ РАБОЧЫЯ ДЭЛЕГАТАЎ СУСТРЭЛІ ГОРАЧА.

— У мяне таксама піонэр ёсьць,— бегае 'шчэ недзе. Кепска ня будзе.

— А мая кватэра на Маскоўскай.

— Табе прыдзецца на трамваі езьдзіць, бо я аж за Камароўкай жыву.

Рабочыя горача сустрэлі дэлегатаў. Ды як-жа: інакш і быць ня можа. Дзевяцьсот дэлегатаў гэта ня многа.

— У рабочых усе-б зьмясьціліся. Дарэмна толькі яшчэ гасьцініцы займалі,—гаварылі піонэры, калі прыходзіла да размовы.

Часта ўспаміналі, сышоўшыся, як іх ветла сустракалі рабочыя. Тады найбольш пацешную „гісторыю" расказваў дэлегат Яўхім Шварц.

— Мяне, кажа, падвялі да двух жанчын.

— Хадземце да мяне,—кажа адна.

— Дык ён-жа ўжо да нас прызначан, — перабіла работніца Юркава.

— А што вы там за асэсары такія? Дзяцей гурба...

— Дык і ён з імі будзе,— дзергануўшы мяне за сарочку, адпаліла яна.

Я пашоў у кватэру Юркавых. А першая жанчына штосьці „запела" сабе пад нос і, злосна махаючы рукою, шпарка пашла па тротуары. У сям'і Юркавых было два піонэры Бацька— комуніст. Праз некалькі гадзін я з імі піў салодкую гарбату.

— Вось як, таварышы,—заключыў Шварц,—дзе лепей: у рабочых ці гасьцініцы?

III

## НА ЎСІХ ФРАНТОХ БУДАЎНІЦТВА НАША ПРАЦА ЗЬЗЯЕ, ІСКРЫЦЦА.

Цёмна-шэры галоўны корпус унівэрсытэцкага гарадку...

Спакойным выглядаў гарадок: студэнты разьехаліся. Дзевяцьсот парушылі супакой. Дэлегаты прышлі на дзелавую работу.

Дзіву даваўся выкладчык Міхал Антонавіч, які, здаецца, гармідару ніколі ня чуў:

— Няўседлівы народ... Гоман-жа які, хоць вату ў вушы закладай.

Міхал Антонавіч казаў правільна. Постаці дэлегатаў зьнікалі сярод высокіх заляў і карыдораў, рэзалі вушы гучныя сьпевы. Вясковыя дзеці спачатку сароміліся, цісьнуліся каля сьцен, але потым пачыналі адчуваць сябе, як дома.

Сыгнал і ўсе на месцы. Напагатове алоўкі і блёк-ноты. Задача выслухаць даклады т. т. Гайдукевіча і Акуліка.

Кожны даклад з трыбуны пераліваецца ў запісныя кніжкі дэлегатаў.

Паўстае пройдзены піонэрскай організацыяй шлях. Ад барабаннага бою і маршыроўкі — да актыўнага ўдзелу ў соцыялістычным будаўніцтве. Ад барабаннага бою — да выкананьня соцыялістычных дагавароў.

Такі шлях пачаўся з першага Ўсебеларускага зьлёту. Цяпер ён выпрабаваны. Двухсоттысячная чырвонагальштучная армія ленінцаў расьце і загартоўваецца ў клясавых бойках за соцыялізм. Усёй грамадзкасьці з трыбуны зьлёту яна разгортвае політычныя документы свае работы:

— Дагавор з Наркомземам і Белколгасцэнтрам.
— Дагавор з ВСНГБ.
— Дагавор трох організацый.
— Дзяржаўнае заданьне.

Вось над выкананьнем чаго працавала трэцяя зьмена. Вось аб чым яна гаворыць на сваім зьлёце.

Кожны дэлегат узброены рапортам. Кожны рапорт іскрыцца лічбамі перамог.

— У колгас уцягнулі 50 гаспадарак. Засілавалі 100 пудоў. Ачысьцілі насеньня 2.000 пудоў...

— На вытворчасьці сабралі 40 прапаноў. Рэалізавана 35. Прагульшчыкаў выявілі 9...

Ды ўсяго не пералічыш. . Мова рапартаў, мова дэлегатаў — адна мова. Яна кажа,

што —

піонэры мільёнамі дзіцячых рук у штодзеннай рабоце дапамагаюць партыі і ўладзе;

што —

піонэрская арганізацыя кладзе свае цагліны ў агульны мур соцыялізму.

І на сваім зьлёце зьмена вызначыла, на аснове падагульненьня праробленай вялізарнай работы, новыя задачы і лічбы, якія будзе з уласьцівым ёй энтузіязмам ажыцьцяўляць пры дапамозе ўсяе пролетарскай грамадзкасьці.

IV

— ПАСТАНОВЫ ВЫКАНАЦЬ ЗЬЛЁТУ!
— ПІОНЭРАМ—УВАГА І КЛОПАТ!

На пяты дзень работы ў штаб па скліканьні зьлёту зьявілася работніца Кроль:

— Скажэце, калі ласка, дзе гэта піонэры дзеліся? Дэлегатаў няма...

— Ды яны сёньня цэлы дзень у вайсковых лягерах знаходзяцца. А ўчора спартакіяда была... Што вы ня ведаеце?

— Не, ён мне якраз нічога не казаў: і як так.

Работніца супакоілася. Ёй сказалі тут, што зьлёт вайскова-фізкультурнай рабоце аддае многа ўвагі — чаму праведзены і спартакіяда, і выхад у лягеры. Супакоеная жанчына ўцягнулася ў гутарку. Яна працягвала:

— Дзіўлюся я, ведаеце, з гасьцей сваіх. У мяне два піонэры з глухіх вёсак. Але такія акуратныя. Чаравікі чысьціць — і то на лесьніцу выходзяць. Вечарам перад сном, хоць нядоўга, але пачытаюць газэтку мне. Са мною, з мужам аб зьлёце пагутараць. Толькі пра лягеры не сказалі... Добрыя дзеці, шкада толькі, што ехаць ім хутка. І тое кепска, што бачымся мала. Некалі ім.

Так. Дэлегаты ўвесь час былі заняты. Паседжаньні, экскурсіі, сустрэчы з рабочымі—усё гэта чаргавалася адно за адным.

Шэсьць дзён работы зьлёту зблізілі дэлегатаў. Разам хадзілі, разам працавалі—адзінай сям'ёй...

— Я ніколі не забуду зьлёту,—гаварыў у час адпачынку нявысокі піонэр.



**ЗА ВУЧОБАЙ**

— Мала самому не забыць,— дадаў дэлегат Шварц,— трэба, каб кожны дарослы ведаў аб ім і яго рашэньнях.

Падышло яшчэ некалькі піонэраў. Зацягнулася жывая, дзелавітая гутарка. Але Шварц усіх спыніў. Ён вырваў з напалову сьпісанага блёк-ноту лісток і голасна прачытаў усяму атраду (зьлёт быў падзелен на атрады).

— Я, дзяткор і дэлегат зьлёту, Шварц Яўхім, абвяшчаю сябе ўдарнікам па популярызацыі пастаноў зьлёту сярод усіх дзяцей і дарослых. Выклікаю ўсіх піанэраў нашага атраду.

Далей слоў чуваць ня было, а толькі несьліся гучныя, працяжныя воплескі.

---

# МЮД АЎСКІ МАРШ

„Там за лесам,
там за перавалам..
Таварышы!

Ня гэтакай песьняю
будзем
грымець.

Маладосьць наша
Індустрыйным запалам
Уключана
ў будаўнічую
сецьць.

„Стаяла, думала...
Замры і давай
дарогу.

Маршамі
зьмераем
пратсораў
далячынь.

Мы ставім мішэньню
паджарага
бога
І жарым
скрозь
сінь.

Хто там супярэчыць,
Трыножыць наш разьбег? —
„Штыхамі і карцечай
Цярэбім шлях сабе...

„Там за лесам,
Там за перавалам...
Там за перавалам
ноч і жах.

Там бізун гуляе
па старых і малых.

Грукаюць гарматы—
б-а-а-б-а-х.

У нас, у краіне саветаў
Расьце будаўнічы размах,
Мы крочым, мы йдзем па плянэце,
Мы мчымся агністай камэтай,
Праз холад, праз сьцюжу, праз вецер,
Да сонца, да яснае мэты.
У нас, у краіне саветаў
Расьце будаўнічы размах.

Рамзіны, Брыяны,—
Контры ўсіх парод,
Бачаць збудаваны
У нас завод, завод.
На палёх бязьмежных
Трактароў парад.
Бачыць, і драпежны
Завывае гад.

Але:—
Ад тайгі да Брытанскіх марэй,
На сушы й на моры плянэты
„Армія Чырвоная ўсіх мацней,
Армія Чырвоная Саветаў.

Маршамі
пройдзем
шляхі
да камуны

Праз Пірэнэі,
Вялікі акіян.
Трубы, барабаны—грымеце!
Грайце струны!—
„Мы, маладая гвардыя
Рабочых і сялян...

**Сяргей Ракіта.**


25-га ліпеня Усебеларускі злёт юных піонэраў
Ленінскі камсамол для кіраўніцтва піонэрскімі атрадамі дай лепшых комсамольцаў ударнікаў!


Будзь гатоў да працы і абароны
ГПА







ГУДУЦЬ АНТЭНЫ Фото-эцюд УЛ. СЕМЯНЯКІ.

# ПА КОЛГАСАХ



Жніво „Новы шлях“. Фото Ляндзбэрга



Касьба „Трудавік“. Фото Ляндзбэрга



Праполка „Першае Мая“. Фото Ляндзбэрга.

# Кніжная Вітрына

**А. Бязыменскі**—Стрэл (вершавая комэдыя). БДВ., Менск—1931 г., 148 стар. Цана 1 р. 50 к.

Вядомая комэдыя Бязыменскага вызвала значныя спрэчкі ў сучаснай крытыцы. Зьмест яе нескладаны: у трамвайным парку ідзе барацьба ўдарнай комсамольскай брыгады за палепшаньне вытворчасьці, за індустрыялізацыю краіны. Усё старое, варожае, што і партыю і пролетарыят ганьбіць сваею прыналежнасьцю да іх, супроцьдзейнічае брыгадзе, даводзячы менш устойлівых маладых брыгадзіраў да самагубства.

Бязыменскі бічуе партбюрократаў, у якіх папера выела мазгі, для якіх папера ўсё, а жыцьцё нішто.

Але пабудаваная на прынцыпах „Літфронту" гэта комэдыя не пазбаўлена раду буйных недахопаў.

Трэба падкрэсьліць комсамольскі „авангардызм" і той факт, што барацьба з клясавым ворагам і правым ухілам, які перад ім капітулюе, яўна падмяняецца ў п'есе барацьбой з кар'ерызмам, з мяшчанствам розных „парт-цётак". Схэматычнае спрашчэнства спараджае, і арэшце разбройваючую думку аб надзвычайнай лёгкасьці барацьбы з адмоўнымі зьявішчамі.

Пераклад комэдыі зроблены Юліем Таўбіным.

**Платон Галавач**—Спалох на загонах (аповесьць). Менск, БелДВ.—1931 г., 180 стар. Цана 75 кап.




Новы твор Платона Галавача „Спалох на загонах" паказвае, што аўтар шчыльна падыйшоў да актуальнейшай проблемы сёньнешняга дня, проблемы соцыялістычнай рэконструкцыі вёскі.

Галавач падае вясну 1930 г., прылівы і адлівы ў колгасах, галавакружэньне ад посьпехаў. Складаны пераплёт клясавай барацьбы на вёсцы глыбока ўскрыты аўтарам.

Галавач паказвае кіруючую ролю рабоч х гораду і партыі. „Цікавым зьяўляецца тое, што проблема суадносін кіраўнікоў колгасным рухам—рабочых гораду і асноўнай масы колгасьнікаў—паказана як нізавая штодзенная работа рабочай брыгады і кіраўнікоў колгасам".

Колектывізацыю ён паказвае так, што з аповесьці органічна выплывае ідэя канчатковай перамогі колектыўных форм землякарыстаньня над індывідуальнымі.

Гэты твор зьяўляецца лепшым творам аб колектывізацыі ў нашай пролетарскай літаратуры.

**Г. Уэльс**—Першыя людзі на месяцы. БДВ, Менск—1931 г., 144 стар. Цана 55 к.

Гэта кніжка належыць вядомаму ангельскаму буржуазнаму пісьменьніку **Г. Уэльсу**. У ёй ён апавядае аб фантастычным падарожжы вынаходца Кавора з таварышом на месяц. Перад чытачом праходзяць пабудова балёну, палёт на месяц, першыя гадзіны на месяцы, сустрэча з селянітамі (жыхарамі месяца), першае з імі знаёмства, бойкі, і нарэшце зварот аднаго з падарожнікаў назад на зямлю. Гэты роман прыадчыняе твар капіталістычнай няволі. У сваім фантастычным романе Уэльс прагаварваецца з значнай адкрытасьцю аб існасьці сучаснага, сапраўднага. Нават на далёкі месяц ён пераносіць асновы капіталістычнага ладу, самай агіднай няволі. Беспрацоўных на месяцы замаражваюць да таго часу, пакуль яны будуць патрэбны. Як бачыце, проблема беспрацоўя на месяцы вырашана надзвычай радыкальна. „Нічога нельга прыдумаць лепшага, як замарозіць мільёны беспрацоўных, пакуль надойдуць лепшыя часы для капіталізму. Фантастычная концэпцыя Уэльса надзвычай ярка расчыняе рэчаіснасьць капіталістычнай няволі.

**Іоган Бэхер**—Льюізіт або адзіная справядлівая вайна (пераклад з нямецкае мовы) БелДВ. Менск—1931 г., 396 стар. Цана 1 руб. 75 кап.

Іоган Бэхер—адзін з выдатнейшых нямецкіх пісьменьнікаў-комуністаў. Ягоны роман „Льюізіт" мае ў сваёй аснове ўпэўніваючы даказанае палажэньне: толькі рэволюцыйнае паўстаньне пролетарыяту зможа вызваліць сусьвет ад небясьпекі вайны.

Аб героях і іх лёсе гаворыцца мала. Іх біографічная лінія вядзецца толькі да ўступленьня на фронт клясавай бойкі. Асноўнае не біографія чалавека, а біографія клясы.

Здарэньні—эпізоды вайны 1914—18 г.г.; падаўленьне дэмонстрацыі пры дапамозе танкаў, задушлівага газу; выбух новай вялікай вайны; захоп цэнтру вытворчасьці атрутных рэчаў Эджвуду; рэволюцыя. Больш усяго ў кнізе адведзена месца газу.

Ніяк нельга сумнявацца ў выбуху новых будучых імпэрыялістычных боек. І гэта кніга жорстка і ўпэўніваюча расказвае жыхару Эўропы аб лёсе, які яму прадстаіць. Гэтагістрыя Эўропы, Эўропы на мяжы бяздоньня.

„Льюізіт" прымушае чытача заняць пэўную позыцыю. „І эта было, гэта ёсьць, гэта будзе. Барацьба вядзецца жорсткая. Што зробіш ты? На чым баку ты будзеш змагацца?" падаючы праўдзівыя факты, пытае аўтар. Прыцягненьне яго да судовай адказнасьці буржуазным судом лепш за ўсё паказвае з кім аўтар, з кім ён заклікае ісьці.

**Яраслаў Гашэк**—Швэйк за дзяншчыка ў фэльдкурата, БДВ, Менск—1931 года. Цана 20 кап.

„Прыгоды бравага салдата Швэйка", самы выдатны твар вядомага чэскага пісьменьніка Я. Гашэка. Зьяўляючыся кульмінацыйным пунктам Гашэкавага гумару, ён уяўляе сабой таленавітую і надзвычайна насычаную бытавым матэрыялам соцыяльную сатыру на буржуазны лад, на яго мілітарыстычную і нацыяналістычную політыку. Аўтар выводзіць цэлы рад тыпаў, замалёваных з жывых людзей сучаснага буржуазнага сусьвету, яго соцыяльнага ладу. Гашэк як-бы нічога




не падкрэсьлівае, ён быццам весела апавядае і толькі. Але за гэтай вясёласьцю хаваецца ядавітая сатыра і сьмех, які інады становіцца злосным і напоўненым нянавісьцю да буржуазіі.

Гэта кніжка зьяўляецца толькі часткай сатырычнай эпопэі Гашэка. У ёй апавядаецца аб прыгодах Швэйка ў часе яго побыту дзяншчыкам у фэльдкурата (вайсковага ксяндза). Гэты факт дае магчымасьць аўтару паказаць усю ману рэлігіі і яе паслугачоў. Кніжка з цікавасьцю будзе прачытана. Трэба толькі пажадаць хутчэйшага выхаду ў сьвет твору Гашэка цалкам.

**Выданьне Беларускага Дзярж. Выдавецтва.** **Адказны рэдактар МІХАСЬ ЧАРОТ.**

Цана 15 кап. 1492

# ПРАЦЯГВАЕЦЦА ПАДПІСКА на 1931

**на адзіны ў БССР ілюстраваны двухтыднёвы часопіс тыпу лепшых ілюстраваных часопісаў СССР**

# Чырвоная Беларусь

**ПАД РЭДАКЦЫЯЙ МІХАСЯ ЧАРОТА**

## У „Чырвонай Беларусі“ на працягу 1931 г. будуць зьмешчаны:

**Апавяданьні:** Авалава, З. Бядулі, С. Баранавых, Іл. Барашкі, Вольнага, Тараса Гушчы, Цішкі Гартнага, Платона Галавача, Даўгапольскага, Міхася Зарэцкага, Ізбаха, Васіля Каваля, Элі Кагана, Р. Кальтофэн, М. Кальтофэн, М. Лынькова, Ліманоўскага, Р. Мурашкі, Маўра, М. Нікановіча, Нёманскага, Кузьмы Чорнага, Міхася Чарота і інш.

**Поэмы і вершы:** А. Александровіча, Астапенкі, Янкі Бобрыка, П. Броўкі, М. Багуна, Алеся Звонака, Янкі Купалы, Якуба Коласа, Крапівы, Максіма Лужаніна, Валерыя Маракова, І. Плаўніка, Юлія Таўбіна, Ізі Харыка, Ул. Хадыкі, М. Хведаровіча, Міхася Чарота, С. Шушкевіча і інш.

**Нарысы і фэльетоны:** Бяліны-Падгаецкага, Бэндэ, Вольнага, Яўгена Жука, Цімоха Зарэчнага, Клімчука, Мікуліча, Васіля Сташэўскага, Шкадарэвіча, Хв. Шынклера.

**Малюнкі і фото:** Ахрэмчыка, Азгура, Бразэра, Булычова, Вал. Волкава, Давідовіча, Кіпніса, Барыса Малкіна, Мазэлева, Ул. Семянякі, Салавейчыка, М. Філіповіча і цэлага шэрагу раённых корэспондэнтаў.

## УСЯГО „ЧЫРВОНАЯ БЕЛАРУСЬ“ ДАЕ Ў ГОД:

звыш 1000 фотоздымкаў, якія ілюструюць соцыялістычнае будаўніцтва СССР і БССР, а таксама замежнае жыцьцё, звыш 300 малюнкаў лепшых мастакоў, звыш 200 апавяданьняў, вершаў і нарысаў.

## „Чырвоная Беларусь“ будзе высьвятляць:

самыя шырокія праявы жыцьця, рэконструкцыйнага пэрыоду і магутнага наступу па ўсяму фронту вёскі, соцыялістычнага спаборніцтва і ўдарніцтва, змаганьне за пяцігодку ў чатыры гады, колектывізацыю сельскай гаспадаркі і інш.

**Умовы падпіскі:**

| На 1 год | | На 6 мес. | | На 3 мес. | |
|---|---|---|---|---|---|
| р. | к. | р. | к. | р. | к. |
| 3 | — | 1 | 50 | — | 75 |

Асобны нумар каштуе **15 К.**

**Падпіска прымаецца:** усімі кнігарнямі, кіёскамі і ўпаўнаважанымі БДВ, усімі пашт.-тэлеграфнымі кантарамі і крамамі спажыв. коопэрацыі.

Тэлефон рэдакцыі 17-00

Друкарня імя Сталіна Зак. № 1789. 8.000 экз. Галоўлітбел № 1031